*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА


Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990г.)

№ 34(194)

24 жніўня 1994 г.

Кошт -- 15 рублёў


## ПОСТУП ТЫДНЯ

**СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ МЕЧЫСЛАЎ ГРЫБ ВЫСТУПІЎ НА НАРАДЗЕ КІРАЎНІКОЎ ДЫПЛАМАТЫЧНЫХ І КОНСУЛЬСКІХ УСТАНОЎ НАШАЙ КРАІНЫ ЗА МЯЖОЙ.** Гаворачы аб незалежнасці Беларусі і аб дзяржаўнай мове, М. Грыб адзначыў: «Жыццёва патрэбны эканамічны саюз з Расіяй не можа быць звязаны з ліквідацыяй канстытуцыйных паўнамоцтваў Нацыянальнага банка Беларусі, не павінен тым самым стварыць магчымасці для ператварэння Беларусі ў паўночназаходні край вялікай Расіі. Барацьба пэўных колаў грамадства за правы рускай мовы ў краіне не павінна прывесці да фактычнай страты таго здабытку, аб якім марылі лепшыя людзі Айчыны некалькі стагоддзяў запар, — дзяржаўнасці беларускай мовы. Да якой, дарэчы, нягледзячы на канстытуцыйны статус, фактычна яшчэ далёка...» Хочацца верыць, што так думае не толькі Старшыня Вярхоўнага Савета, але і прэзідэнт, і ўвесь урад нашай краіны.

***НА КОНКУРСНАЙ АСНОВЕ І ШЛЯХАМ ТЭСЦІРАВАННЯ** будзе набірацца штат тэхнічнага абслугоўвання ў адміністрацыю прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Толькі нявялікі працэнт машыністак, стэнаграфістак, перакладчыкаў, якія раней працавалі ў апараце Савета Міністраў, застанецца працаваць пры «новай уладзе». Галоўным патрабаваннем, апрача прафесійных якасцей, для многіх будзе веданне беларускай мовы.*

**АДБЫЛАСЯ СУСТРЭЧА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ З ЧЛЕНАМІ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА.** Кіраўнік дзяржавы ў ходзе гутаркі падкрэсліў значэнне Канстытуцыйнага суда як калектыўнага органа, прызначанага стаяць на варце законнасці і канстытуцыйных дзеянняў улады.

***20 ЖНІЎНЯ АДБЫЛАСЯ ДЭНАМІНАЦЫЯ БЕЛАРУСКАГА РУБЛЯ Ў 10 РАЗОЎ.** Што гэта: крок да нацыянальнай валюты ці ў рублёвую зону?*

**У РУКІ НАРОДА ПАВІННА БЫЦЬ ПЕРАДАДЗЕНА НЕ МЕНШ ЧЫМ 80 ПРАЦЭНТАЎ ДЗЯРЖАЎНАЙ УЛАСНАСЦІ.** Да такога высновы прыйшлі члены ценявога кабінета апазіцыі Беларускага народнага фронту Вярхоўным Савеце на сваім чарговым пасяджэнні.

***ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ «НАШАГА СЛОВА»!** Ідзе падпіска на рэспубліканскія выданні на чацвёрты квартал 1994 года. Да канца падпіскі засталося крыху больш за тры тыдні. Калі вы яшчэ не падпісаліся на «Наша слова», але вырашылі і надалей быць нашымі чытачамі, то не марудзьце. Кошт (пасля дэнамінацыі беларускага рубля) на месяц: 100 рублёў, на квартал: 300 рублёў.*

Мінулы тыдзень быў адзначаны адной на першы погляд звычайнай, але на самай справе надзвычай адметнай і важнай падзеяй — Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка прыняў актыўны ўдзел у святкаванні Дня незалежнасці краіны.

Богты мой, што ж тут важнага ды адметнага! — усклікне неспрактыкаваны ў беларускай рэчаіснасці чытач. — Гэта ж натуральна, каб першая асоба краіны разам са сваім народам адзначала дзяржаўныя святы, тым больш святы такога грамадзянскага і патрыятычнага кшталту, як Дзень незалежнасці !

Усё так. Аднак напярэдадні 27 ліпеня з лагера так званых «левых» сіл прагучалі прамыя заклікі да Прэзідэнта аб ігнараванні гэтага свята. Незалежнасць, па-камуняцку, Беларусь атрымала 1 студзеня 1919 года, калі Масква ў процілегласць БНР стварыла марыянетачную БССР. І менавіта гэты дзень разам з «левымі» прапаноўвалася святкаваць Прэзідэнту.

Дзякуй Богу, Аляксандр Лукашэнка аказаўся куды разумнейшым, чым думалі пра яго таварышы з якойнебудзь ДСПС. Але дзейнасць арганізацый камуністычнага веравызнання патрабуе, тым не менш, самай пільнай грамадскай увагі.

Яны гавораць пра дэмакратыю — і млеюць ад паўночнакарэйскай правячай дынастыі камуністаў, ад кубінскага клана Кастра Русаў. Яны «імкнуцца» да сацыяльнага прагрэсу і абагаўляюць кітайскі рэжым, які страляе і душыць танкамі сваіх жа студэнтаў. Яны —за справядлівасць, толькі ніколі не ўдакладняюць, для каго і дзеля чаго.

А галоўнае — яны адмаўляюць у справядлівасці для нацыі. Усе іхнія разумовыя практыкаванні ў нацыянальным пытанні зводзяцца да двух пастулатаў: да адзінства славянскіх народаў і, на аснове гэтага адзінства, да інтэрнацыяналізму. Яны любяць беларуса як «белого руса» і не надта паважаюць украінцаў, бо тыя мусяць звацца «русамі малыми».

Славянскі Сабор «Белая Русь» (назва!) днямі расплакаўся перад маскоўскімі ўладамі — што ж вы, маўляў, робіце! Чаму ж вялікую нацыю губіце? Як вы ў сваіх новых пашпартах у графе «нацыянальнасць» даўмеліся пазначыць «рускі»?! Трэба ж пісаць «велікарус», бо беларусы з украінцамі — таксама рускія!

Яны страцілі адчуванне рэчаіснасці. Мне даводзіцца сустракацца, гутарыць з гэтымі людзьмі. У тым ліку з тымі, хто галасаваў за Аляксандра Лукашэнку. Паверце, мала хто памятае «гучнае» выступленне сённяшняга Прэзідэнта на так званым Кангрэсе народа Беларусі. Ніхто не зважаў на яго закіды пра «развал Саюза». Яго абіралі хіба толькі як «мсціўцу» і «барацьбіта».

(Працяг на стар. 2.)

# БЕЛАРУСЬ — ДЗЕЛЯ БЕЛАРУСАЎ

## *Бо назоў «беларусы» тоесны назову «беларускі народ»*


*Пад эпалетамі расейскага цара.* *Стар. 2*

**Са славутага роду Ельскіх.** **Стар. 4**

*Ідэя стварэння Гімна ўсім народам знаходзіць падтрымку.* *Стар.7*


***У ГАЗЕТАХ***

## Добры прыклад

Ужо трэці год у Бабруйску выходзіць «Коммерческий курьер» —двухмоўная рэгіянальная газета для дзелавых людзей, якая на васьмі палосах выдаецца двойчы на тыдзень. Адзначым, што хоць газета з'яўляецца камерцыйнай (выдавец бабруйская фірма «Тры бабры»), але яна не цураецца беларускасці. У большасці нумароў значная частка матэрыялаў друкуецца на дзяржаўнай мове нашай краіны. Тут шырока прапагандуюцца і новыя кнігі, якія садзейнічаюць росту нацыянальнай свядомасці грамадзян. Так, напрыклад, у сёлетнім 41-м нумары гэтай газеты пад рубрыкай «Книжные навінкі» зроблены разгорнутыя анатацыі да «Учебника белорусского языка для самообразования» А.Крывіцкага і А.Падлужнага, «Дапаможніка для абітурыентаў Беларуская мова» Э.Блінавай, «Гісторыя Беларусі» М.В.Доўнар-Запольскага (перавыданне), трохтомнага «Русско-белорусского словаря», «Археалогіі і нумізматыкі Беларусі» (выданне Беларускай Энцыклапедыі) і інш. Такім чынам «Коммерческий курьер» падае шматлікім недзяржаўным камерцыйным перыядычным выданням добры прыклад уважлівага і дбайнага стаўлення да праблем нашай нацыянальнай культуры.

## *Што схавана за лічбамі?*

Штотыднёвік «Брестский курьер» № 27 (заснавальнікі газеты Акцыянерны камерцыйны банк «Брэсткомбанк» і абласное аддзяленне Беларускага фонду культуры) змясціў аналітычны артыкул Віталя Іванова і Алега Шылава, прысвечаны сучаснаму стану кнігавыдавецкай справы на Беларусі. Сярод іншага аўтары прыводзяць і наступныя лічбы. Па гістарычнай тэматыцы (а такія кнігі сёння асабліва неабходныя нашым грамадзянам) дванаццаць дзяржаўных выдавецтваў Рэспублікі Беларусь у 1990 годзе выпусцілі 93 назвы кніг агульным накладам 470,4 тыс. паасобнікаў, у мінулым годзе — тыя ж самыя 93 назвы накладам 1255,6 тыс. паасобнікаў. Павялічыўся наклад утрая.

На першы погляд, выдатна. Але аўтары раяць не спяшацца з высновамі, бо, па-першае, па-беларуску ў 1990 г. выйшла ўсяго 17 кніг агульным накладам 162,3 тыс. паасобнікаў, а ў мінулым годзе — 58 назваў накладам 412,1 тыс. паасобнікаў. Па-другое, апошнія лічбы могуць збіць з панталыку, бо значную частку іх складаюць не кнігі, а танюткія, надрукаваныя ў абмежаванай колькасці, брашуры на гістарычныя тэмы. Значыць, на самай справе, яшчэ далёка не ўсё ідзе як мае быць у кнігавыдавецкай дзейнасці, хоць за сухімі матэрыяламі нашай статыстыкі гэтага часта не бачна.

М.В.

# БЕЛАРУСЬ -- ДЗЕЛЯ БЕЛАРУСАЎ

*Працяг. Пачатак на стар. 1.*

Калі ж гаворка заходзіць пра наш лёс, пра лёс Беларусі і яе народа, людзі чакаюць ад Прэзідэнта рашучасці — наспеў час самім абараняць свае інтарэсы. Наспеў час увядзення сваёй валюты,час спагнання транзітных тарыфаў, час выплат за ўтрыманне расійскага войска і г. д. і т. п.

А прыклад ёсць — краіны Балтыі. Краіны, якія першыя ўсвядомілі свае НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ ІНТАРЭСЫ і першыя пачалі за іх змагацца.

І вось што цікава — нам пра гэта практычна не гавораць —нацыянальныя інтарэсы эстонцаў ці латышоў там амаль супадаюць з нацыянальнымі інтарэсамі так званых «рускамоўных» гэтых краін. Таму што інтарэсы гэтыя — інтарэсы ўсяго народа Эстоніі і Латвіі.

Не так даўно я меў гутарку ў Міністэрстве замежных спраў з консуламі і пасламі Беларусі ў краінах Балтыі. Высветлілася, што там, у Балтыі, сапраўды ёсць некаторыя праблемы ў нашых суайчыннікаў. Але тычацца яны ў асноўным пенсіянераў, асабліва вайсковых, — тых, хто не жадае прыкласці нейкія намаганні дзеля інтэграцыі ў латвійскае альбо эстонскае грамадства. З моладдзю ж і людзьмі «актыўнага» ўзросту — з тымі, хто імкнецца жыць і працаваць у гэтых краінах, — праблем аніякіх. Моладзь разумее, што анічога так проста ў жыцці не даецца, і прымае правілы гульні, якія патрабуюць пэўных высілкаў у валоданні той ж мовай альбо ў разуменні мясцовага нацыянальнага менталітэту.

Працэс натуральны: дзяржава бароніць свае інтарэсы —грамадзянам дзяржавы жывецца лепей.

На жаль, гэтага не разумеюць нашы мясцовыя камуністы, суцэльным касяком далічваючы сябе да «неабароненых рускамоўных». І іх неабароненасць, як высвятляецца часам з залішне шчырых заяў, накшталт вышэйпамянёнага звароту да Прэзідэнта, — у самім існаванні Беларусі як незалежнай дзяржавы.

І ёсць тут яшчэ адзін момант, пра які гаварыць не хацелася да апошняга. Справа вось у чым: каб я, беларус, прыехаў у Расію і павучаў рускіх, калі ім адзначаць дзяржаўныя святы,напрыклад, то не толькі б рускія глядзелі на мяне «тамбоўскім воўкам». Я сам, чужынец, адчуваў бы сябе надта няёмка, бо ў любым выпадку не мая справа — лезці з бруднымі нагамі ў чужую душу.

А вось у спадароў Некрасова ці Сорокина, Школьникова ці Иванова ні на хвіліну не з'яўляецца сумнення: ці маюць яны права? Ці сталі гэтыя спадары настолькі беларусамі, настолькі прасякнуліся беларускім духам, каб вучыць нас і раіць нам?

Зрэшты, пасаж гэты чыста эмацыянальны. І ёсць на Беларусі рускі старшыня БСДГ Алег Трусаў, і быў беларус касманаўт Пётр Клімук. А ключык тут у тым, што трэба проста шчыра задумацца пра лёс і інтарэсы нашай зямлі.

І апошняе.

Першы Прэзідэнт краіны — чалавек, які яшчэ не нюхаў паветра ўлады на вяршыні палітычнага Алімпа. І гэта чалавек, ад пазіцыі якога ў вельмі многім будзе залежаць стаўленне дзяржчыноўнікаў да беларускасці і беларушчыны. З яго імем беларуская дэмакратыя не звязвала надзей, але пасля яго абрання ўсё ж спадзяецца на вышэйшую дзяржаўную мудрасць гэтага чалавека. Вунь, нават БНФ заявіў пра тое, што знаходзіцца да А.Лукашэнкі не ў апазіцыі, а ў канструктыўнай пазіцыі.

Пра што я?

Пра тое, што я таксама супраць кандыдатуры Дзмітрыя Булахава на пасаду Старшыні Канстытуцыйнага суда. Але я ўдвая супраць сённяшняга в. а. — Валерыя Ціхіні. Ён, бачыце, цяпер стаўся беспартыйным, але ж яшчэ Талькоў спяваў у свой час — «перестроить можно рожу, ну а душу никогда...» І хоць забіце мяне, але абаронцам беларускай канстытуцыйнасці Валерыя Гур'евіча я не бачу.

І шчыра спадзяюся, што А.Лукашэнка знойдзе і прапануе Вярхоўнаму Савету іншую, вельмі патрэбную на гэтую пасаду адметную асобу.

Спадзяюся, што ён і яго міністры ўпарадкуюць сістэму сродкаў масавай інфармацыі і болей не дапусцяць скасавання «Беларускай маладзёжнай» ці рэгістрацыі «Новай народнай газеты». Інакш, згодна юрыдычным прэцэдэнтам, можна будзе адкрываць «Найноўшую народную», «Самую новую сярод найноўшых народных», «Свежанькую народную» альбо «Апошнюю».

Спадзяюся, што ён і яго міністры не будуць звальняць з арміі афіцэраў за наяўнасць беларускага духу.

Спадзяюся, што ён і яго міністры будуць імгненна расшукваць падонкаў, што двойчы крышылі шыльду «Нашага слова», рабавалі «ЛіМ» і размалёўвалі свастыкамі кіёск Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны.

Спадзяюся, што ён і яго міністры ведаюць, што нафта здабываецца не толькі ў Расіі, а таксама палічаць тыя сотні мільёнаў штогадовых долараў, якія плацяць (а не атрымлівае) Беларусь за войскі ўсходняй суседкі на сваёй тэрыторыі.

Спадзяюся, што яму і яго міністрам будзе цікава, адкуль, з якіх часоў і ад якіх высокіх асоб вядзецца рэй традыцый беларускай дзяржаўнасці, і яны і надалей будуць святкаваць нашыя святы — 25 сакавіка і 8 верасня ў тым ліку.

Я сапраўды шчыра спадзяюся на гэта. І першыя дні праўлення Прэзідэнта не скасоўваюць гэтай надзеі.

**Максім ГРЭК.**

**«Добры вечар» (№ 143, 1994).**

АЛЕ!

***«З гісторыі зброі» — гэткую назву атрымала выстава, якая напрыканцы ліпеня адкрылася ў памяшканні Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі. Яе экспанаты былі падабраныя ў калекцыях самога музея. І таму выстава зрабілася, па сутнасці, часткай агульнай экспазіцыі. І, як частка экспазіцыі, яна будзе прадстаўлена ўвазе публікі на працягу двух наступных гадоў.***

# Пад эпалетамі расейскага цара...

ДЫК ШТО ж прапануе Нацыянальны музей да агляду сваім наведвальнікам — людзям, што прыходзяць туды, каб пазнаёміцца з гісторыяй свайго краю?

Экспазіцыю пачынае стэнд з узорамі зброі, ужыванай у IX-XIII стагоддзях на землях старажытнай Беларусі — Полацкай Тураўскай, Навагрудскай. Кальчугі, шчыты, баявыя сякеры, паліцы, дзіды (названыя чамусьці коп'ямі) — усе гэтыя старажытныя рэчы, ці, дакладней, іх сучасныя копіі сведчаць аб тым, што менавіта са зброяй у руках нашыя продкі абаранялі і ўласную годнасць, і дзяржаўную незалежнасць.



Цікавыя экспанаты выстаўлены і на стэндах, што датычаць перыяду XIV-XVI стагоддзяў: кальчугі, шчыты, мячы часу Вялікага Княства. Асобныя месцы займаюць рэканструкцыі тагачасных майстэрні зброі і арсенальнага пакоя заможнага шляхціча. Апошні аднолькавы ў тым самым выглядзе, які мелі падобныя памяшканні ў XVII стагоддзі: развешаная на сценах і раскладзеная на стале багата аздобленая разнастайная зброя і сярод яе — том Статута Вялікага Княства Літоўскага — дакумента, які рэгламентаваў, між іншым, ужыванне і захаванне зброі яе ўладальнікамі ў ваенны і мірны час.

Тая частка выставы, на якой прадстаўлена зброя перыяду сярэднявечча, паказвае вялікую разнастайнасць узбраення ў час, калі кожны шляхціч — удзельнік паспалітага рушэння — мусіў сам набываць зброю і амуніцыю.

Вітрыны пазнейшага часу: на змену разнастайнасці тут прыходзіць адзінства — уніфікацыя формы зброі. Экспанаты тлумачаць: гэта быў час вялікіх імперый і вялікіх армій, і разам з тым — час заняпаду Рэчы Паспалітай. Таму на музейных вітрынах яе зброя саступае месца зброі дзяржаў, час удзелу якіх тады прыспеў. З-пад шкла блішчаць золатам нямецкія і французскія грэнадзёркі ды расійскія эпалеты. XVIII стагоддзе прадстаўлена кафтанам расійскага стральца. XIX — ківерам унтэр-афіцэра расійскай пяхоты, менцікам расійскага ж гусара, зброяй Расіі ды Францыі часоў вайны, якую ў 1812 годзе арміі гэтых дзвюх тагачасных звышдзяржаў вялі на зямлі Беларусі. Узоры зброі пазнейшага часу наведвальнікі выставы бачаць пераважна на лубках з выявамі перамог расійскай зброі падчас расійска-турэцкіх войнаў. Побач — турэцкія ятаганы і георгіеўскія крыжы, якія беларусы маглі заслужыць, праліваючы сваю і чужую кроў за расійскія інтарэсы. Да трохі ранейшага часу належаць суседнія экспанаты — шаблі і пісталеты з Каўказа — здабыткі арміі Расіі ў рэгіёне, крываваё далучэнне якога да імперыі расцягнулася на дзесяцігоддзі. І, нарэшце, XX стагоддзе. Тут можна ўбачыць спартыўную і паляўнічую зброю з розных краін Еўропы ды зброю ўдзельнікаў расійска-японскай вайны 1905 года. Стэнды ўпрыгожаны мноствам лубкоў, на якіх зноў жа расійскія войскі ўшчэнт высякаюць ворагаў, у тым ліку і рукамі беларускіх рэкрутаў.

Выставу замыкае раздзел, прысвечаны Першай сусветнай вайне. Зброі тут няма, пэўна, з прычыны яе прыдатнасці да выкарыстання.

Затое на сценах развешана мноства лубкоў, асвятляючых перамогі... ну вядома ж — расійскага войска, накшталт «Поражения немцев при Друскениках на Немане». Гэтаму ці не апошняму з экспанатаў, спадарожнічае верш, што пачынаецца словамі: — В Русь святую тьма их плыла.

Казалось, кто б их мог сдержать?

Рука врагов переложила

Чрез Неман мост...

Што ж, меркаваць аб тым, што зямля на ўсход ад Нёмана ёсць частка «Святой Русі», было правам аўтара гэтага твора, пра мастацкія якасці якога няма чаго і казаць. Але ж ці не стварае ўражанне аб гісторыі Беларусі як непадзельнай часткі Расіі, большасць экспанатаў сённяшняй выставы? Гісторыя зброі ў тым выглядзе, у якім яна пададзена Нацыянальным музеем, — не гісторыя яе ў свеце ці ў Беларусі. Людзям, якія прыходзяць у музей, каб пазнаёміцца з невядомымі ім дагэтуль гістарычнымі падзеямі, прапануецца канцэпцыя гісторыі зброі Расійскай імперыі. Але ж заваяванні Каўказа і Сярэдняй Азіі, у рэгіянальных і сусветных збройных канфліктах беларусы бралі ўдзел не як абаронцы свайго краю, а як падуладныя Дому Раманавых, як жыхары нядаўна далучанага да «Святой Русі» «Северо-Западного края».

Наша гісторыя — гэта гісторыя народа, які імкнуўся вярнуць страчаную свабоду. Але ніводзін з экспанатаў выставы не згадвае аб паўстаннях 1794, 1831 ці 1863 гадоў. Значыць, не было ні касінераў, ні змагання «за вашу і нашу свабоду»? Не было і ўдзелу амаль 100 000 беларусаў у вайне 1812 года на баку Напалеона, які абвясціў адраджэнне Вялікага Княства Літоўскага? Не было вайсковых адзелаў, якія абаранялі Беларускую Народную Рэспубліку ў 1918? Не было «Зялёнага дуба», арміі Булак-Булаховіча, не было Слуцкага збройнага чыну 1920 года? Хай камусьці гэта падасца дзіўным, але гісторыя зброі ў нашым краі — гэта і гісторыя партызан, якія — адны пад чырвонымі сцягамі, другія пад бела-чырвона-белымі — ваявалі ў лясах нямецкай акупацыі. Гэта і гісторыя Беларускай Краёвай Абароны, якую спрабаваў стварыць урад Астроўскага. Гэта і гісторыя беларусаў, якія ў складзе англійскай арміі ці Войска Польскага бралі ўдзел у вызваленні Італіі, змагаліся і гінулі пад Монтэ-Касіно — «нямецкім Сталінградам».



Але ж, відаць, ТАКУЮ гісторыю зброі нам давядзецца вывучаць не хутка. Таму сёння ў зале Нацыянальнага музея месца зброі ўдзельнікаў паўстання Каліноўскага займаюць расійскія эпалеты з вензелем Аляксандра II — цара, загадам якога было задушана гэта паўстанне і які праз 18 гадоў загінуў ад бомбы ўраджэнца Беларусі Грынявіцкага. Ці ўспомняць аб гэтым тыя, што прыйдуць у музей?

**У.П.**

# СА СЛАВУТАГА РОДУ ЕЛЬСКІХ

***Прозвішча Ельскіх добра вядома на Беларусі і ў сумежных дзяржавах. І больш таго — вандроўныя сцежкі аднаго з Ельскіх, Канстанціна Міхайлавіча, цягнуцца аж но ў Лацінскую Амерыку. А яшчэ з гэтага роду — славуты даследчык нашай мінуўшчыны Аляксандр Ельскі, выдатны кампазітар Міхал Ельскі.***

***Сярод імёнаў нашчадкаў Ельскіх на Беларусі раней амаль не згадвалася Соф‘я Іванаўна Ельская, дачка сына Канстанціна Ельскага — Івана Канстанцінавіча (1862—1930).***

***Але аб усім па парадку...***



Калі хлопчыку Івану было толькі тры гады, яго бацька вымушаны быў пакінуць Радзіму. Спачатку трапіў у Турцыю, пасля ў Еўропу, затым — у Лацінскую Амерыку. Памерла яго жонка. Немаўля засталося сіратою. Выхоўваўся Іван у хаце братоў яго бацькі — Міхаіла Карлавіча і Аляксандра Карлавіча Ельскіх.

З цяжкасцю ўдалося хлопцу атрымаць адукацыю. Пасля працаваў настаўнікам у Пінску і Гродне. За вальнадумства маладога чалавека пазбавілі дваранства і саслалі на Паўночны Каўказ, у Новарасійск. Туды Івану пісала лірычныя лісты маладая эмансіпіраваная жанчына Гартэнзія Іеранімаўна Станкевіч (1859—1937). А неўзабаве яна прыехала да свайго сябра, каб падзяліць з ім усе выпрабаванні. Праз некаторы час маладыя павянчаліся.

У Новарасійску Іван Канстанцінавіч працаваў канторшчыкам на хлебным элеватары. Пасля рэвалюцыі быў прызначаны на пасаду камерцыйнага дырэктара гэтага ж прадпрыемства.

Соф‘я — другая дачка ў сям‘і Івана Канстанцінавіча і Гартэнзіі Іеранімаўны. Першая, Марыя, нарадзілася ў 1895 годзе. А праз два гады — і Соф‘я... Усяго ж у сям‘і сына славутага падарожніка было шасцёра дзяцей. Акрамя Марыі і Соф‘і — яшчэ чацвёра: Эдуард, Вітольд, Ядвіга і Улада.

У час вучобы Соф‘я была першай вучаніцай у гімназіі, скончыла яе з медалём. Яшчэ ў гімназічныя гады ў дзяўчыны выявіліся аратарскія і артыстычныя здольнасці. Была дзяўчына і добрым плыўцом. Пераплывала Новарасійскую бухту. Сын Соф‘і Іванаўны — Віктар Мікалаевіч Ельскі, доктар медыцынскіх навук, прафесар з Данецка, расказвае:

— У сям‘і вядомы такі выпадак. У сапраўдны норд-ост, які звычайна выклікае ў Новарасійску шторм, мама кінулася ў мора і выратавала таго, хто тапіўся. За што яе адзначылі спецыяльным медалём...

У 1914 годзе дзяўчына паступіла на прыродазнаўчы факультэт Кіеўскага універсітэта. Пайшла па сцежцы, якую для сябе вызначыў яшчэ дзед — Канстанцін Міхайлавіч Ельскі, выбраўшы і ВНУ і прафесію біёлага.

Ужо ішла Першая сусветная вайна. Пакінуўшы вучобу ва універсітэце, дзяўчына добраахвотна едзе на фронт сястрой міласэрнасці. Амаль кругласутачна дзяжурыць у шпіталях. Дома ў Ельскіх і пасля вайны доўга захоўваліся лісты ад удзячных параненых, каго Соф‘я ратавала.

У 1916 годзе шпіталь, дзе служыла Ельская, пераводзяць у Растоў-на-Доне. Сюды ж эвакуіравалі і Варшаўскі універсітэт, у якім вучыўся будучы муж Соф‘і — Мікалай Мікалаевіч Благавешчанскі. Маладыя людзі пазнаёміліся ў інфекцыйным бараку, там Мікалай працаваў урачом-бактэрыёлагам, а Соф‘я —медыцынскай сястрой.

У Растове, знаходзячыся ў самым цэнтры ачага інфекцыі, Ельская перахварэла на ўсе формы тыфу.

У 1920—1921 гадах Ельская ізноў у Новарасійску, працуе намеснікам дырэктара марской біялагічнай станцыі. Праз год Соф‘я выходзіць замуж за Мікалая Благавешчанскага, і яны пераязджаюць у Казань. Муж працуе асістэнтам кафедры мікрабіялогіі Казанскага універсітэта і навуковым супрацоўнікам Казанскага бактэрыялагічнага інстытута. Соф‘я паступае на 2 курс прыродазнаўчага факультэта Казанскага універсітэта, які скончыла ў 1926 годзе. Адначасова вучылася (каб мець спецыяльную агратэхнічную адукацыю) у Казанскім інстытуце сельскай і лясной гаспадаркі і скончыла яго.

Якраз у дваццатыя гады пачынаецца станаўленне Ельскай як вучонага. З 1929 года Соф‘я Іванаўна працуе практыканткай, а пасля інструктарам станцыі па абароне раслін ад шкоднікаў. Выконвае складаную працу «Даследаванне забаватасці карэнняў саджанцаў яблыні». Праз некаторы час выходзіць у свет манаграфія С.Ельскай «Матэрыялы да вывучэння рака карэнняў яблыні». Рэкамендацыі Ельскай заўважылі аграномы-практыкі. Соф‘ю Іванаўну накіроўваюць на падрыхтоўку па спецыяльнасці «фітапатолаг» у Інстытут абароны раслін Сельскагаспадарчай Акадэміі ў Ленінградзе. А пасля вучобы залічваюць асістэнтам кафедры фітапаталогіі Казанскага сельскагаспадарчага інстытута.

У Данецку якраз адкрыўся медыцынскі інстытут. Сям‘ю Ельскіх запрасілі туды працаваць. Яны актыўна ўключыліся ў работу па стварэнні лекцыйнай інстытуцкай базы, працягвалі займацца навуковай працай. Цэнтральная Атэстацыйная камісія пры Наркамаце асветы прысвоіла Соф‘і Іванаўне ступень кандыдата біялагічных навук.

Універсітэцкая адукацыя дазволіла Ельскай у 30-я гады з дапамогай матэматычных напрацовак правесці глыбокія навуковыя даследаванні ў галіне генетыкі. Соф‘я Іванаўна чытала лекцыі на вядучым — лячэбным — факультэце. Працавала маладая выкладчыца вельмі паспяхова.

1937 год прынёс шмат бяды Ельскай: памерла маці — Гартэнзія Іеранімаўна, а 30 снежня, калі сям‘я рыхтавалася сустрэць Новы год, другі раз арыштавалі мужа. У той час мікрабіёлагаў-інфекцыяністаў арыштоўвалі і ў іншых гарадах —у Харкаве, у Маскве, у Ленінградзе. На ўсе запыты родных, знаёмых аб лёсе Благавешчанскага адказ быў адзін: «Рэпрэсіраваны на 10 гадоў без права перапіскі...» І толькі ў 1957 годзе Соф‘я Іванаўна даведалася пра пасмяротную рэабілітацыю мужа за адсутнасцю саставу злачынства. А ў 1988 годзе сыну — Віктару Мікалаевічу — пераслалі ўдакладненне, што бацька быў асуджаны, маўляў, за трацкізм і шкодніцтва ў галіне аховы здароўя і расстраляны ў 1938 годзе.

Грымнула вайна. Ельская разам са студэнтамі і дзецьмі знаходзілася на сельскагаспадарчых работах у вёсцы. У першыя дні вайны фашысцкая авіяцыя бамбіла Данецк, да якога імкліва набліжалася лінія фронту.

У канцы кастрычніка пачалася масавая эвакуацыя горада. Праходзіла яна спехам, неарганізавана. Інстытуцкі эшалон выправіўся ў дарогу раней прызначанага тэрміну. Многія сем‘і засталіся. У тым ліку — і Соф‘я Іванаўна з дзецьмі. Акупацыя. Холад. Маральныя і фізічныя здзекі, прыніжэнне. Не жыццё, а існаванне на мяжы, блізкай да смерці.

Соф‘я Іванаўна працавала і ў клінічнай лабараторыі цывільнай бальніцы. Толькі пасля вайны дзеці даведаліся, што маці рызыкавала жыццём, удзельнічала ў рабоце падпольнай арганізацыі. Але дзеці — Ірына і Віктар — ведалі, што маці выдавала людзям фіктыўныя даведкі, што тыя нібыта хвараюць. Гэтым яна дапамагала вызваліцца ім ад вывазу ў Германію. Хавала Ельская ў сваёй кватэры і савецкага ваеннапалоннага.

У верасні 1943 года савецкія войскі вызвалілі Данецк. Разам з вяртаннем горада да жыцця пачалося аднаўленне інстытута. Соф‘я Іванаўна арганізавала кафедру, адрадзіла яе літаральна з попелу. Ужо ў кастрычніку пачаліся заняткі ў напалову разбураным памяшканні. На яе сям‘і ляжала «пячатка»: «была ў акупацыі». Хутка стала вядома, што ў 1942 годзе на фронце як «ворага народа» арыштавалі і асудзілі пляменніка мужа Віктара Благавешчанскага, артыста і галоўнага рэжысёра Краснадарскага драматычнага тэатра...

Менавіта тады Соф‘я Іванаўна вырашыла пакінуць за сынам Віктарам прозвішча Ельскіх.

Паціху жыццё наладжвалася. Соф‘я Іванаўна па-ранейшаму працавала загадчыцай кафедры. Па лініі таварыства «Веды» з лекцыямі ездзіла па ўсіх раёнах Данбаса, выступала ў рабочых пасёлках і вёсках. Чытала лекцыі на біялагічныя тэмы на шахтах і палявых станах. А юны Віктар Ельскі суправаджаў маці як асістэнт, наладжваў дэманстрацыю доследаў.

Прыйшоў 1947 год. Соф‘я Ельская падрыхтавала да абароны доктарскую дысертацыю па генетыцы. Але ў 1948 — вядомая сесія «ВАСХНИЛ», дзе адбыўся поўны разгром генетыкі і генетыкаў. Затым наступіла змрочная «лысенкаўшчына». Дысертацыю Соф‘і забралі і знішчылі, вызвалілі з пасады загадчыцы кафедры. Афіцыйная забарона не пазбавіла яе гарачага жадання самастойна займацца генетыкай. На кватэру да Ельскай прыходзілі студэнты і школьнікі. Разам з Соф‘яй Іванаўнай яны рашалі задачы па законах спадчыннасці, вельмі патрэбныя для біялагічнай адукацыі будучых медыкаў.

Ад лектарскай працы Ельскую чамусьці не вызвалілі. Праўда, ёй давялося змяніць накірунак, успомніць, што некалі займалася фітапаталогіяй і захворваннямі дрэў. Пра гэта і чытала лекцыі. Тры гады Ельская прысвяціла вывучэнню фітанцыдаў вышэйшых раслін Данбаса. Правяла шмат экспедыцый, зрабіла мноства аналізаў у палявых умовах і ў лабараторыі. Матэрыялы, сабраныя Ельскай (дарэчы, у сталым ужо ўзросце: нарадзілася ж Соф‘я ў 1897 годзе) выкарыстаў у сваёй манаграфіі навуковы кіраўнік Соф‘і Іванаўны ленінградскі прафесар Б.Токін. Яго працу «Фітанцыды» адзначылі Дзяржаўнай прэміяй. У 1962 годзе ўнучка вядомага падарожніка, наша зямлячка, памерла.

Лёс Соф‘і Іванаўны Ельскай вельмі паказальны для гэтага славутага роду. Усе Ельскія імкнуліся ўсім сваім жыццём, уласнай штодзённай працай прыносіць карысць і дабро людзям.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў ПЫТАННЯХ І АДКАЗАХ

### Адкуль узяліся на Беларусі палякі?

Палякі на Беларусі ніколі не былі карэннымі жыхарамі. Паводле законаў нашай старадаўняй дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага, усім іншаземцам (у тым ліку й палякам) забаранялася займаць у нас дзяржаўныя і царкоўныя пасады, купляць зямлю. Таму ў старажытныя часы прыкметнай міграцыі палякаў на Беларусь не было.

У другой палове XVII стагоддзя дзеля розных сацыяльна-палітычных прычын на Беларусі пакрысе пачаўся працэс паланізацыі (г. зн., апалячвання) шляхты і найвышэйшых станаў грамадства. Пазней, у XIX стагоддзі, хваля паланізацыі часткова закранула і сялянства, пераважна праз каталіцкі касцёл. Ксяндзы, часта наўмысна атаясамліваючы нацыянальнасць і веравызнанне, прапаведавалі заганную формулу: хто трымаецца «польскай» (каталіцкай) веры — той паляк.

У выніку гэтых працэсаў, паводле перапісу 1897 года, палякамі запісалася 12 % насельніцтва Беларусі. Гэтаксама, згодна з дадзенымі Кракаўскага статыстычнага камітэта, у 1912 годзе сярод жыхароў Гарадзенскай губерні было 10,07 % палякаў, а ў Віленскай яшчэ меней — 8,17 %.

У Заходняй Беларусі ў час яе знаходжання ў складзе Польскай дзяржавы ў 20—30-х гадах праводзілася дзяржаўная палітыка апалячвання, якая суправаджалася переследамі ўсяго беларускага. Польскія ўлады маніпулявалі статыстычнымі дадзенымі, штучна завышаючы лік польскага насельніцтва. Не абмяжоўваючыся гэтым, яны праводзілі палітыку прамой каланізацыі, перасяліўшы блізу 300 тысяч чалавек гэтак званых асаднікаў у Заходнюю Беларусь з этнічнай Польшчы.

На тэрыторыі Усходняй Беларусі (БССР) палякі тады складалі не больш за 3 % насельніцтва, або 97,5 тысячы чалавек (дадзеныя 1926 года).

Пасля далучэння Заходняй Беларусі, у 1940 годзе, у выніку сталінскіх рэпрэсій блізу 600 тысяч чалавек каталіцкага веравызнання (у іх ліку практычна ўсе асаднікі) былі высланы ў Сібір.

Пасля Другой сусветнай вайны, у 40—50-х гадах лік польскага насельніцтва ў Беларусі яшчэ болей зменшыўся. У выніку польска-савецкіх міждзяржаўных пагадненняў каля 500 тысяч каталікоў (пераважна сялян, што ўцякалі ад калгасаў) выехала на сталае жыхарства ў Польскую Народную Рэспубліку.

Як ні парадаксальна, але і пасля гэтага ў БССР, паводле перапісу 1989 года, жыло 418 тысяч палякаў, з якіх 13,3 % лічылі роднай мовай польскую. Дык адкуль жа яны ўзяліся? Мы ж ведаем, што на працягу ўсёй нашай гісторыі значнага перасялення палякаў на нашыя землі не было (за выключэннем з'явы асадніцтва, якое, аднак, не пакінула па сабе этнадэмаграфічнага следу).

Значыць, яны «прадукуюцца» тут, на Беларусі. І «прадукуе» іх, без сумнення, польскі каталіцкі касцёл. Менавіта ён сёння, як і дзвесце гадоў назад, робіць палякаў з беларусаў-каталікоў, прышчапляючы ім польскую нацыянальную свядомасць.

Усё гэта пацвярджаецца і дадзенымі антрапалогіі, вывучэннем мовы і культурных традыцый польскай меншасці ў нашай рэспубліцы. Яны пераканаўча сведчаць, што пераважная колькасць тых, хто лічыць тут сябе палякамі, — беларусы паводле свайго паходжання.

Такім чынам, не адмаўляючы на Беларусі этнічных палякаў, даводзіцца прызнаць: у абсалютнай большасці мясцовыя палякі, як, дарэчы, і тыя, што жывуць на Віленшчыне, — гэта апалячаныя беларусы.

**Юрась КАЛАЧЫНСКІ.**

### Ці была БНР марыянеткавай дзяржавай?

Стварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі было заканамерным этапам у развіцці нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі пачатку XX стагоддзя. Усебеларускі кангрэс (з'езд), які адбыўся ў снежні 1917 года, выказаўся за аўтаномную рэспубліку Беларусь у складзе федэратыўнай савецкай Расеі. Але нават такая пастанова выклікала абурэнне кіраўнікоў бальшавіцкай партыі, і яны, як вядома, выкарысталі сілу. У 1918 годзе лідэр бальшавікоў «Западной области» В. Кнорын пісаў: «Мы лічым, што беларусы не з'яўляюцца нацыяй і што тыя этнаграфічныя асаблівасці, якія іх аддаляюць ад астатніх рускіх, павінны быць зжытыя. Нашай задачай з'яўляецца не стварэнне новых нацый, а знішчэнне старых нацыянальных рагатак». Рада і Выканаўчы камітэт, абраныя кангрэсам, былі тады адзінымі прадстаўнікамі інтарэсаў беларускага народа.

У лютым—сакавіку 1918 года гэтая Рада была папоўненая прадстаўнікамі з месцаў і ператвораная ў беларускі парламент — Раду Беларускай Народнай Рэспублікі. Выканаўчы камітэт стаў урадам БНР, які называўся Народным Сакратарыятам.

25 сакавіка 1918 года ў 3-й Устаўной грамаце Рады БНР Беларусь абвяшчалася вольнай і незалежнай дзяржавай. Устанаўліваўся 8-гадзінны працоўны дзень; лясы, азёры і нетры нацыяналізаваліся; зямля без выкупу перадавалася тым, хто на ёй працуе. Абвяшчалася вольнасць слова, друку, сходаў, забастовак, веравызнання, незачэпнасць асобы і памяшкання. Нацыянальным меншасцям на беларускай зямлі не было гвалту: яны мелі права на нацыянальна-персанальную аўтаномію.

Пры канцы лютага ў Менск, дзе знаходзіўся ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі, прыйшлі войскі кайзераўскай Нямеччыны. Яны забралі касу Народнага Сакратарыята, сарвалі з яго будынка бел-чырвона-белы сцяг, выгналі службоўцаў. Лідэры БНР былі папярэджаныя, што акупацыйныя ўлады не дапусцяць на Беларусі сур'ёзнай палітычнай дзейнасці. Паводле дамоўленасці ў Берасці, немцы абавязаліся не прызнаваць новых дзяржаўных утварэнняў на тэрыторыі былой Расейскай імперыі.

Урад БНР не прытрымліваўся ў сваёй дзейнасці і польскіх інтарэсаў. Ён катэгарычна адхіляў прэтэнзіі заходняга суседа на беларускія землі. «Старшыня Беларускай Рады п.Луцкевіч, прыбыўшы нядаўна ў Варшаву, хоча выратаваць фікцыю беларускай дзяржаўнасці і вядзе перамовы з польскім урадам. Урад без асаблівай ахвоты вядзе перамовы», — гэтак, пагардліва для беларусаў, адзначалася на з'ездзе інструктараў польскай ваенізаванай арганізацыі «Страж крэсова» ў верасні 1919 года.

Такім чынам, урад БНР дбаў толькі пра інтарэсы сваіх грамадзян, беларускага народа. Лічыць Беларускую Народную Рэспубліку марыянеткай Нямеччыны, Польшчы ці якой іншай дзяржавы няма ніякіх падставаў.

**Тацццяна ПРОЦЬКА.**

*Сымон БАРЫС*

## *Як у нас клічуць?*

*Матэрыялы для слоўніка «Беларускія імёны»*

### *Мужчынскія імёны*

*(Працяг)*

**Лазар.** Лазарь (яўр.) — Бог памочнік. Вытв. Лазарка. Імяніны пр. 21.03; 28.06; 30.07; 30.10; 20, 30.11; кат. 10.02; 14.03; 17.12. Імя па бацьку Лазаравіч, Лазараўна.

**Леанард.** Леонард (са стар. ням.) — адважны леў. Імяніны кат. 27.02; 30.03; 6, 26.11. Імя па бацьку — Леанардавіч, Леанардаўна.

**Леапольд.** Леопольд. Імяніны 30.07. Імя па бацьку Леапольдавіч, Леапольдаўна.

**Ларывон, Гіляр.** Илларион (грэч.) — ціхі, радасны. Вытв. Ларык, Ларка, Ларысь, Ларук. Імяніны: пр. 10.04; 19.06; 6.07; 31.08; 10.09; 3, 20.11; кат. Гіляр — 13, 14.01; 21.10. Імя па бацьку Ларывонавіч, Ларывонаўна і Гіляравіч, Гіляраўна.

**Лаўрын, Лаўр.** Лаврентий (лац.) — лаўровы. Вытв. Лаўрык, Лаўрынюк, Лаўрэнка, Лаўрэнцік, Лаўрук, Лаўрысь, Лаўрусь, Лаўрэн, Лаўрэнт, Лаўрым. Імяніны: пр. 11.02; 29.05; 23.08; 10.09. Імя па бацьку Лаўрынавіч, Лаўрынаўна і Лаўравіч, Лаўраўна.

**Леанід, Лёнь.** Леонид (грэч.) — падобны да льва. Вытв. Лёнё, Лёня, Лёнечка, Лёнік, Лёнічак, Лёнька, Лёньця, Лёнюк, Лёнюсь, Лёнюська, Лёнюха. Імяніны 23.03; 24.04; 18.06; 30.07; 21.08. Імя па бацьку Леанідавіч, Леанідаўна і Лёневіч, Лёнеўна.

**Лявон.** Леонтий (грэч.) — львіны. Вытв. Лявонка, Лявонька, Лёня, Ляўко. Імяніны: пр. 4.02; 22.03; 7, 27.05; 5.06; 1, 23.07; 14, 22.08; 10, 26.09; 31.10; кат. 20.02; 14.03; 11, 19, 22.04; 28.06; 10, 26.11. Імя па бацьку Лявонавіч, Лявонаўна.

**Леў.** Лев (грэч.) — леў. Вытв. Лёвік, Лёўка, Лёвачка, Лёва. Імяніны 3.03. Імя па бацьку Львовіч, Львоўна.

**Лука, Лукаш.** Лука (лац.) — той, хто з Луканіі. Імяніны: пр. 17.01; 20.02; 5.05; 12.08; 20.09; 11.10; 19, 24.11; кат. Лукач — 17.02; 22.04; 10.09; 18.10. Імя па бацьку Лукіч, Лукінічна і Лукашавіч, Лукашаўна.

**Лук'ян.** Лукиан (лац.) — светлы. Вытв. Лук'янка, Лук'янчык, Люцік, Люшчак. Імяніны: пр. 28.04; 16.06; 6, 19, 20.07; 10, 26.09; 28.10; кат. Люцыян — 7.01; 12.02; 13.06; 26.10. Імя па бацьку Лук'янавіч, Лук'янаўна.

**Любамір.** Любомир (слав.) — любіць мір. Імяніны 21.03; 31.07; 10.11. Імя па бацьку Любаміравіч, Любаміраўна.

**Людвіг.** Людвиг (ад стар. ням.) — ад слоў: слава і бітва. Кат. Людвік. Імяніны кат. 28.04; 25.08; 8.10. Імя па бацьку Людвігавіч, Людвігаўна.

**Людамір.** Людомир (слав.) — ад слоў людзі і мір. Імяніны кат. 7, 11.05. Імя па бацьку Людаміравіч, Людаміраўна.

**Людаміл.** Людомил (слав.) — мілы людзям. Імяніны кат. 20.02. Імя па бацьку Людамілавіч, Людамілаўна.

**Людаслаў.** Людослав (слав.) — ад слоў людзі і слава. Імяніны: кат. 12.04; 30.11. Імя па бацьку Людаслававіч, Людаславаўна і Людаславіч і Людаслаўна.

**Любім.** Любим (слав.) — той, каго любяць. Вытв. Любімчык, Любімка. Імя па бацьку Любімавіч, Любімічна.

**Лютабор.** Лютобор (слав.) — люты змагар. Вытв. Люцік, Люцічык, Лютаборка. Імя па бацьку Лютаборыч, Лютаборавіч, Лютабораўна.

**Мадэст.** Модест (лац.) — сціплы. Вытв. Модзік, Мадзесцік, Модзя. Імяніны 29.05; 28.06; 31.12. Імя па бацьку Мадэставіч, Мадэстаўна.

**Майсей.** Моисей (егіп.) — узяты ад вады. Вытв. Майсейка, Майсейчык, Майсюк, Мойса, Майсак, Мося, Мосік, Моська, Мойша. Імяніны 7.02; 8, 10.08; 10, 17.09; 11.10. Імя па бацьку Майсеевіч, Майсееўна.

**Макар.** Макарий (грэч.) — блажэнны. Вытв. Макарка, Макарачка, Макарушка, Макарчык, Макрук, Макрэй. Імяніны: пр. 12, 23.01; 1, 18.02; 26.05; 8.06; 7, 31.08; 10, 12.09; 11.10; 6.12; кат. 2, 15.01; 28.02; 10.04. Імя па бацьку Макаравіч, Макараўна.

**Макей.** Мокей (грэч.) — які абсмейвае, насмешнік. Вытв. Макейка, Макейчык. Імяніны 24.05; 16.07. Імя па бацьку Макеевіч, Макееўна.

**Максім.** Максим (лац.) — найвялікшы. Вытв. Максімка, Максімачка, Максімік, Максімчык, Максімушка, Мака, Макса, Максік, Макся, Максюра, Максюта. Імяніны: пр. 29.01; 3, 19.02; 4.03; 23.04; 11, 27.05; 12, 24, 26.08; 18, 28.09; 22.10; 10, 24.11; 5.12; кат. 8.06; 27.12. Імя па бацьку Максімавіч, Максімаўна.

**Максіміллян, Максіміян.** Максимилиан (лац.) — ад імёнаў Максім і Емяльян. Імяніны: пр. 17.08; 4.11; кат. 12.03; 14.08; 12.10. Імя па бацьку Максімілянавіч, Максімілянаўна і Максіміянавіч і Максіміянаўна.

**Малах.** Малахий. Імя па бацьку Малахавіч, Малахаўна.

**Мануіл.** Мануил (яўр.) — скарочаны варыянт імені Эмануіл (яўр.) — з намі Бог. Вытв. Мануйлік, Манулька, Манульчык, Мануйла, Манойла. Імяніны: пр. 4.02; 30.06. Імя па бацьку Мануілавіч, Мануілаўна.

**Марат.** Марат. Вытв. Марацік, Марацічка. Імя па бацьку Маратавіч, Маратаўна.

**Марка.** Марк (лац.) — ад рымскага імені Маркус, магчыма, млявы. Вытв. Марачка, Маркель, Марук, Маркуль, Маркусь, Марык, Марычак, Марчык. Імяніны: пр. 11, 17.01; 1.02; 18.03; 11, 18.04; 16.07, 7.08; 10, 11.10; 9.11; кат. 24.03; 25.04; 18.06; 31.08; 28.09; 7, 22.10; 22.11. Імя па бацьку Маркавіч, Маркаўна.

**Маркел, Марцэль.** Маркел (лац.) — ваяўнічы. Вытв. Маркельчык, Маркелік, Маркуль. Імяніны: пр. 11.01; 22.02; 20.06; 14, 27.08; 18.11; кат. 16.01; 2.06. Марцэля — 10.03; 9.04; 19.06; 14.07. Імя па бацьку Маркелавіч, Маркелаўна і Марцэлевіч, Марцэлеўна.

**Мартын, Марцін.** Мартин (лац.) — Марсаў, бога Марса. Вытв. Марцінчык, Марцінка, Марцінок, Марцісь; Мартынка, Мартынчык, Мартынанька, Мартук, Марцей. Імяніны: пр. 27.04; 25.10; кат. 30.01; 13.04; 24.10; 3, 11.11; 7.12. Імя па бацьку Мартынавіч, Мартынаўна і Марцінавіч, Марцінаўна.

*(Працяг будзе.)*

## *Створым Гімн Беларусі разам, усім народам!*

# Жыве Беларусь!

1. Мы, беларусы, — вольныя людзі!
2. Вольным заўсёды будзе наш шлях.
3. Сімвал свабоды — Сцяг Беларусі,
4. Бела-чырвона-белы наш Сцяг.
    5. Хай жа ніколі ён не загіне!
    6. Бог захавае Белую Русь.
    7. Наша адданасць — Вольнай Радзіме
    8. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!
9. Праца народа моц і свабоду —
10. Годнасць гартуе з году ў год...
11. Веліч Радзімы — мужнасць народа,
12. Люд Беларусі — слаўны народ.
    13. Хай жа ніколі ён не загіне!
    14. Бог захавае Белую Русь.
    15. Наша адданасць — мілай Радзіме.
    16. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!
17. Край наш багаты, шчодры, дзівосны,
18. Рэкі павольныя, светлыя тут.
19. Мірна гамоняць бярозы ды сосны...
20. Цешце, нашчадкі, родны наш кут!
    21. Хай жа ніколі ён не загіне!
    22. Бог захавае Белую Русь.
    23. Наша адданасць — мілай Радзіме.
    24. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!

**ПАЎТАРАЕМ тэкст верша Уладзіслава Жыгалкі, які ён прапанаваў дапрацаваць грамадою, каб такім чынам стварыць Гімн Беларусі. Радкі вырашана пранумараваць дзеля зручнасці спасылкі на іх у далейшым. Напамінаем: кожны, хто бярэ ўдзел у дапрацоўцы тэксту, можа ў межах агульнай задумы верша дасылаць уласныя варыянты радкоў ці асобных слоў, а таксама падтрымліваць альбо крытыкаваць заўвагі і варыянты іншых удзельнікаў сумеснай працы над тэкстам. Публікуючы іх, мы ўстрымліваемся ад рэдакцыйных каментараў. Чакаем вашых лістоў, шаноўныя чытачы!**

**Рэдакцыя.**

* * *

*Паважаная рэдакцыя «Нашага слова», прачытала артыкул «Створым Гімн Беларусі разам, усім народам!» Задаволена. Дзякуй Уладзіславу Жыгалку за яго клопат аб Радзіме — Беларусі, ды і нас, беларусах. Словы простыя і хутка запамінаюцца.*

*Выказваю сваю думку, толькі не крыўдуйце. Прапаную ў першай страфе слова «шлях» замяніць словам «край». Будзе гучаць «Вольным заўсёды будзе наш край!»*

*У другой страфе (прыпеў) слова «Бог» лепш будзе гучаць «мы». «Мы захаваем Белую Русь!» (Многія баяцца слова «Бог» па розных прычынах.)*

*У трэцяй страфе чацвёрты радок «Люд Беларусі — слаўны народ» неяк не гучыць.*

*Слова «цешце» можа лепш будзе гучаць «шануйце»: «Шануйце, нашчадкі, родны наш (край) кут!»*

*Мне думаецца, што аўтары, якія пісалі новы Гімн, раўніва адносяцца адзін да другога; таксама і кампазітары. Прабачце, калі ласка, за мае заўвагі.*

**Клаўдзія ДАВІДЗЮК.**

* * *

*Прапанаваны тэкст Уладзіслава Жыгалкі выкарыстаць як Гімн Беларусі лічу магчымым, калі ў ім замяніць слова «свабода» на слова «воля». Тэкст так і пачынаецца: «Мы, беларусы, —вольныя людзі!»*

*Затым прапаную словы «Белая Русь» замяніць на слова «Беларусь».*

*Усім вядома, што з сябе ўяўляе Славянскі Сабор «Белая Русь», якую ставіць мэту, каго аб'ядноўвае. Таму лічу, што слоў «Белая Русь» у тэксце Гімна не павінна быць.*

**Іван ЖЫТКО.**
**г. Камянец.**

* * *

*Слухаючы і параўноўваючы музыку гімнаў розных краін свету, я прыйшоў да пераканання, што наш музычны Гімн, створаны кампазітарам Сакалоўскім, найбольш удалы, па сутнасці, узорны, узнёслы, мілагучны.*

*Горача падтрымліваю прапанову Уладзіслава Жыгалкі дапрацаваць ягоны тэкст усёй грамадою. Падмурак будучага Гімна, паэтычны стрыжань неблагі. Вельмі добра, што газета «Наша слова» смела ўзялася за гэты надта цікавы эксперымент. Веру, што ён удасца.*

*Каб лягчэй было ўзяць гэты незвычайны творчы бар'ер, прапаную надрукаваць на старонках газеты сучасныя, існуючыя тэксты гімнаў некаторых блізкіх і далёкіх краін, напрыклад Расіі, Украіны, Польшчы, Літвы, Кубы і г.д. Усё лепшае ствараецца на лепшых узорах метадам параўнання, супастаўлення, праверкі ўласных думак і пачуццяў.*

*Варта акрэсліць праграму-мінімум Гімна. На мой погляд, Гімн павінен паэтычна адлюстроўваць:*

1. *Палітычныя ідэалы, якія ставіць перад сабой беларускі народ.*
2. *Духоўны скарб народа.*
3. *Прагу народа да волі і незалежнасці.*
4. *Ідэя Гімна павінна быць арыенцірам, компасам на будучыню.*
5. *Духоўны стан народа праз прызму Адраджэння.*
6. *Асноўныя гістарычныя скрыжалі.*
7. *Векавую барацьбу за волю і незалежнасць.*
8. *Гонар за Бацькаўшчыну, гатоўнасць аддаць жыццё на яе алтар.*
9. *Чалавекалюбства, дружбу паміж усімі народамі.*

**Васіль ГУСЦІНОВІЧ.**

## *МАМА, ПАЧЫТАЙ!*

**Міхась СКОБЛА**

### Рысь

У рысі і ўночы
відушчыя вочы.
Даўгія вусы,
на вушах кутасы.

За дуб, як за мур,
хаваецца рыска.
І кажа: — Мур-мур,
як хатняя кіска.

Кажух — навырост.
І верыцца ўсё-ткі
што вырасце хвост,
бо вельмі ж кароткі.





### Скарб

Мне сказала мышка-палёўка...
А пра што — я вам ні гу-гу.
Дзе ты, дзе ты, мая рыдлёўка —
ёй адной расказаць магу.

На гародзе ў бабкі Агаты,
дзе растуць агуркі й часнок,
шмат гадоў таму пан багаты
закапаў залаты збанок.

Залаты збанок ці куфэрак,
што блішчыць дыяментамі аж.
Гэта ж колькі будзе цукерак,
як занесці яго на кірмаш!

Я стараўся, капаў, бы крот.
Раскапаў увесь агарод.

Падкапаў і падмурак хаты —
скарб, няйначай, пад ёй ляжыць.
Толькі бабкі шкада, Агаты,
дзе ж тады яна будзе жыць?

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА**

### Сом

Вось прысніўся саму
Дзіўны сон:
Падарылі яму
парасон.

Сом глядзеў —
Акуляры надзеў:
Эх, шкада,
Што ў вадзе
Дождж не йдзе!



*ЧЫТАЛІ?*

# Калейдаскоп сталічнай даўніны

***(З нагоды выхаду ў свет кнігі З.Шыбекі і С.Шыбека «Мінск: Старонкі жыцця дарэвалюцыйнага горада», 1994.)***

ЯК ВЯДОМА, сталіца заўжды з'яўлялася візітнай карткай дзяржавы ці краю. У крыху адглянцаваным выглядзе тут канцэнтруецца безліч эканамічных, сацыяльна-культурных рэалій, уласцівых адпаведнаму этнасу на яго тэрыторыі. Больш таго, сталіца — чуйны нервовы барометр, жывое люстэрка канкрэтнай нацыі, цэнтр яе палітычнага і духоўнага жыцця. Таму ў сталічным горадзе даволі дакладна ўвасоблены вызначальныя рысы дзяржавы або пэўнага рэгіёна. Менск — не выключэнне.

Але нашаму Менску, які ўпэўнена вядзе адлік дзесятага стагоддзя ўласнай дакументальнай гісторыі, не надта пашанцавала на сённяшніх сваіх летапісцаў, на краязнаўцаў. Больш таго, працяглы час не было недахопу ў сяўцах заганных тэорый (адсутнасць гісторыка-культурных помнікаў у сталіцы; сапраўдная гісторыя Менска бярэ пачатак толькі з «Вялікага Кастрычніка» і г. д. ). Навуковае ж гістарычнае краязнаўства ў Менску, як і скрозь па рэспубліцы, дагэтуль, на жаль, ледзь дыхае, фактычна знаходзячыся на нулявой адзнацы, бо апантаныя беларускія краязнаўцы 20-х — пачатку 30-х гадоў былі ўсе фізічна знішчаны. А затым паслядоўна рабілася ўсё, каб патрыятычны краязнаўчы рух не атрымаў свайго далейшага развіцця.

Таму кожнае грунтоўнае, напісанае даходліва і займальна даследаванне менскай гісторыі — падзея ў грамадска-культурным жыцці сталіцы. Перш-наперш адзначым, што З.В. і С.Ф. Шыбекі знайшлі трапны, арыгінальны падзагаловак да сваёй кніжкі: «Старонкі жыцця дарэвалюцыйнага горада». Гэтым яны адразу падкрэслілі, што пад вокладкай вас чакае сустрэча з калейдаскопам сталічнай даўніны, якой менчукі былі доўга пазбаўлены. Яшчэ толькі ўчора — успомніце! —усе бясконцыя разбурэнні ў нашай сталіцы звыкла спісвалі на стратныя вынікі ваеннага ліхалецця. Зразумела, зусім скідваць з рахункаў іх нельга, але куды больш менскіх помнікаў знікла без войнаў, менавіта ў савецкі перыяд. Раней гэтая акалічнасць ці глуха замоўчвалася, ці істотна змякчалася. Аўтары ж новай кніжкі шчыра пішуць, што адным з вынікаў бальшавіцкай дыктатуры стала тое, што зараз «Страчаны цэласны вобраз гістарычнага Менска. Мы згубілі горад... Мы страцілі свае святыя мясціны».

Гартаеш адну за другой старонкі кніжкі — і паступова з забыцця нібыта ажывае стракатая, яркая галерэя жыхароў тагачаснага Менска: ад беспрацоўных і люмпенаў да «бацькоў горада» і губернатараў. Адзначым, што аўтары, рэзка адыходзячы ад усталяваных стэрэатыпаў нашага без меры заідэалагізаванага мыслення, неаднойчы падкрэсліваюць: літаральна ўсе гараджане з'яўляліся перш за ўсё жывымі людзьмі і толькі пасля —рамізнікамі і гандлярамі, чыноўнікамі і фабрыкантамі, рамеснікамі і паліцэйскімі. Даказна, на канкрэтных фактах даводзіцца, што працоўныя Менска, напрыклад, даўней не толькі без перадыху гаравалі ды бедавалі, неадступна думаючы аб барыкадах і нелегальных сходках (чым нам дзесяцігоддзямі назойліва забівалі галовы), а яшчэ і адпачывалі, кахалі, марылі, бралі шлюбы, гадавалі дзетак, хадзілі ў госці, наведвалі цырульні, лазні, часам — тэатры, пазней — і кінематограф. Такім чынам аўтары пры ўзнаўленні сталічнай мінуўшчыны актыўна карыстаюцца гуманістычным падыходам да гістарычных фактаў — творчым метадам, які звычайна ігнараваўся большасцю савецкіх даследчыкаў.

Кожны чытач, неабыякавы да даўніны беларускай сталіцы, з гэтай кніжкі ўпершыню не без здзіўлення даведаецца, што хоць жыццё менчукоў у дарэвалюцыйны перыяд мала паходзіла на зямны рай, але тым не менш пашыраны вобраз «праклятай мінуўшчыны» тут далёка не заўсёды, мякка кажучы, адпавядаў тагачасным рэаліям. Таксама ў навіну, відаць, будзе многім з нашых сучаснікаў прачытаць, што яшчэ ў 1892 годзе водаправод абслугоўваў 28 цэнтральных вуліц губернскага Менска, што яшчэ праз тры гады тут ужо весела загарэліся лямпачкі ад мясцовай электрастанцыі, што кабельная тэлефонная сувязь — цяжка паверыць! — стала працуе ў нашай сталіцы ўжо аж цэлае стагоддзе, а напярэдадні Першай сусветнай вайны адсюль пралягла і першая міжгародняя тэлефонная лінія, якая надзейна звязала горад з павятовым Барысавам.

Абапіраючыся на дакументальную факталогію, аўтары падрабязна «ўваскрашаюць» і духоўнае жыццё горада ў канцы мінулага —пачатку новага стагоддзяў. Гэтай важнай тэме, якая доўгі час заставалася комплексна маладаследаванай, прысвечана да палавіны ўсяго зместу кнігі.

Пераканаўча падкрэслена, што ў фарміраванні светапогляду гараджан прыкметную ролю адыгрывала менская ліберальная інтэлігенцыя: выкладчыкі школ і гімназій, вучнёўская моладзь, службоўцы, прадстаўнікі так званых вольных прафесій, частка навакольных памешчыкаў і афіцэраў тутэйшага гарнізона. У гэтым асяроддзі знаходзілі не толькі разуменне, а і практычную падтрымку перадавыя, у тым ліку нацыянальна-адраджэнцкія і нацыянальна-вызваленчыя ідэі.

Апошні раздзел кніжкі «Старыя мінскія адрасы» ўвогуле не мае адпаведных аналагаў сярод усёй гістарычнай літаратуры, прысвечанай мінуўшчыне нашай сталіцы. Мы, па сутнасці, маем цяпер першы ўсеахопны навуковы даведнік менскай мінуўшчыны.

На заканчэнне давайце разам, віншуючы аўтараў з вялікай творчай удачай, далучымся да цёплых слоў старэйшай артысткі Купалаўскага тэатра, карэннай менчанкі Стэфаніі Станюты, якія ў кнізе папярэднічаюць аўтарскаму тэксту:«Калі чытала кніжку, то перада мною, як у «чароўным ліхтары», пранасіліся напаўзабытыя карціны: вуліцы, скверы... конка, паводкі, народныя чытанні ў Юбілейным доме, кінематограф і куплетысты... цыркавыя балаганы... Аўтарам удалося адчуць і данесці да нас воблік даўняга Мінска, сам дух мінулых часоў».

Дададзім, што рэцэнзентам кнігі з'яўляўся Зянон Пазьняк, ён жа аўтар «Рэха даўняга часу» — адной з лепшых кніг, прысвечаных сталічнай даўніне.

**На родную мову кнігу**
**Шыбекаў пераклаў**
**Мар'ян ВІЖ.**

# ВЫПІСВАЙЦЕ ГАЗЕТУ




# НАША СЛОВА

*«Наша слова» — пастаянна дзеючая трыбуна рупліўцаў беларушчыны*

**Калі выпішаце «Наша слова», Вы атрымаеце магчымасць штотыдзень знаёміцца з экспрэс-аналізам падзей нацыянальнага жыцця Беларусі і свету**

**Падтрымліваць сувязь з лепшымі знаўцамі мовы і гісторыі і карыстацца іх парадамі**

**Чытаць успаміны дзеячаў культуры, згадкі, архіўныя знаходкі**

**Разнастайныя паведамленні пра беларускае замежжа**

**Агляды рэгіянальных выданняў ТБМ**

**Пераклад вострасюжэтнай прозы лепшых майстроў слова**

**Кніжныя навіны. Размоўнікі. Радавод. Народную лякарню. Гумарэскі. Эпіграмы і інш.**

***І гэта ўсяго за 100 руб. у месяц ці 300 руб. за квартал***

***Продаж у розніцу вельмі абмежаваны. ІНДЭКС для падпіскі 63865.***

**Супрацоўнікі і рэдкалегія «Нашага слова» звяртаюцца да ўсіх сяброў ТБМ імя Ф.Скарыны і нашых актыўных аўтараў размножыць і размясціць рэкламу «Нашага слова» на відных месцах і наогул паспрыяць падпісцы.**

## НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ ПАШТОВЫЯ МАРКІ



Агульнавядома, што дзяржаўныя герб, сцяг і гімн — галоўныя сімвалы і неад'емныя атрыбуты любой суверэннай краіны. Падобную функцыю таксама выконваюць і паштовыя маркі, якія, апроч выканання сваіх прамых функцый, з'яўляюцца своеасаблівымі мастацкімі мініяцюрамі, дзе ўвасоблены адметныя рысы кожнай нацыянальнай дзяржавы.

Нельга сказаць, што беларуская тэматыка зусім адсутнічала ў марках былога СССР. Але пераважная большасць гэтых марак заставалася толькі малавыразнай, даволі бляклай ілюстрацыяй асобных бакоў жыцця БССР. Зразумела, што важкія падзеі нашай нацыянальнай гісторыі ў тых марках звыкла ігнараваліся, наўмысна замоўчваліся, а то і знарок перакручваліся да поўнай непазнавальнасці.

Неўзабаве пасля абвяшчэння дзяржаўнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь 27 ліпеня 1990 г. Міністэрства сувязі і інфарматыкі нашай краіны наладзіла першы выпуск нацыянальных паштовых марак і канвертаў. Сярод апошніх, дарэчы, вылучаецца цяпер вельмі пашыраны канверт з выявамі старажытных гербаў беларускіх гарадоў і мястэчак, якія даўней мелі магдэбургскае права (аўтар — вядомы менскі навуковец Анатоль Цітоў).

У канцы мінулага — пачатку бягучага года выпушчана новая серыя нацыянальных паштовых марак. На іх — славутыя гістарычныя асобы, якія адыгралі вялікую ролю ў гісторыі Бацькаўшчыны, чыё жыццё — подзвіг у імя Айчыны: Ефрасіння Полацкая, Рагвалод, Францішак Скарына, Кастусь Каліноўскі. Адна з марак прысвечана вядомай каталіцкай святыні на Беларусі — кармеліцкаму касцёлу святога Станіслава ў Магілёве. На трох — выдатныя беларускія мастакі Фердынанд Рушчыц, Язэп Драздовіч і Пётра Сергіевіч. Чатыры маркі прапагандуюць традыцыйную галіну беларускага народнага рамяства — вырабы з залацістай саломкі.

**М. В.**




## *Д. ДЖАРВІС:*
## *Карысныя ўласцівасці мёду*

**Стары сродак ад кашлю,** які прапануе народная медыцына: праварыць адзін лімон на павольным агні на працягу 10 мінут. Ён стане мяккім, асабліва лупіна (скурка), і з яго можна будзе болей выціснуць соку. Разрэзаць лімон напалам і выціснуць сок (можна пры дапамозе сокавыціскалкі). Уліць сок у шклянку, дабавіць 2 сталовыя лыжкі гліцэрыны, добра размяшаць, а затым даліць шклянку да верху мёдам (замест соку лімона можна скарыстаць яблычны воцат).

Доза сіропу ад кашлю рэгулюецца ў залежнасці ад абставін. Калі кашаль рэдкі — прымаць па 1 чайнай лыжцы на працягу дня (сумесь перад ужываннем узбоўтваць). Калі ж кашаль непакоіць і ноччу, трэба прымаць 1 чайную лыжку сумесі перад сном і яшчэ адну сярод ночы. Пры моцным кашлі прымайце 1 чайную лыжку раніцай, устаўшы з пасцелі, другую прыміце да абеду, трэцюю пасля абеду, чацвёртую надвячоркам, затым пасля вячэры і на ноч. Па меры супакаення кашлю скарачайце колькасць прыёмаў сумесі.

Гэты сродак ад кашлю найбольш эфектыўны з усіх вядомых. Яго можна рэкамендаваць як дарослым, так і дзецям. Ён эфектыўны ў выпадках, калі іншыя сродкі не дапамагаюць.

**Мёд і спазмы мышцаў.** Спазмы мышцаў павек, вуснаў, ног, ступняў можна ўстараніць, прымаючы па дзве чайныя лыжкі мёду за кожнай ядой звычайна на працягу тыдня. Пасля гэтага наступае паляпшэнне. Мёд можна працягваць прымаць на працягу неакрэсленага часу з мэтай папярэджання магчымых рэцыдываў.

**Мёд і лячэнне апёкаў.** Народная медыцына здаўна ўжывала мёд у якасці эфектыўнага сродку ад апёкаў скуры. Ён аслабляе адчуванне болю і папярэджвае ўтварэнне пухіроў. Апечанае месца хутка залечваецца.

**Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1.**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:**

**Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.**

**Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.**

**Індэкс 63865. Замова 33**

**Газета набрана і зввярстана ў рэдакцыі газеты «Паляўнічы і рыбалоў Беларусі».**

**Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр. Ф.Скарыны, 79.**

**М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**

**П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**

**Наклад 5 940 паасобнікаў**

**Падпісана ў друк 22.08.1994 г. у 15 гадзін.**